Год IX—1920 г. Травень (Май). 2-я кніжка.



**ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ ЖУРНАЛ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.**

I сярэбраны мядаль „Саха“ адтрымала на Віленскай гаспадарскай выстаўцы за стацьці аб насеньні у 1913 г.

2 сярэбр. мядаль «Саха» адтрымала на Менскай гаспадарскай выстаўцы за стацьці свае аб гаспадарцы у 1914 г.

**Цана кніжкі 5 мк. з перасылкай почтаю**

Падпіска прымаецца не на месяцы, а на лік кніжак у парадку іх выхаду у сьвет.
6 кніжак—30 мк., 12 кніжак—60 мк.

## ЗЬМЕСТ:



Адрэс: Менск, Міцкевічава вул. 99—8.

Год 1920. 2-я кніжка.

# „САХА“

Першы беларускі журнал сельскай гаспадаркі пачаў ізноў выходзіць ў сьвет.

Цана кніжкі 5 марак з дастаўкай.

Падпіска прымаецца на лік кніжак у парадку іх выхаду. 6 кніг—30 м., 12 кніг—60 марак.

Адрэс рэдакцыі: **Менск, вул. Міцкевіча (Захарауская) 99—8.**

Рэдактар: *А. Уласаў.*

Выдавец: *Беларускі Цэнтральны Саюз сельскай гаспадаркі.*

# Кармленьне кароў.

Ня раз ужо пісалося аб тым, што вялікую абмылку маюць тые гаспадары, які кароў сваіх лічаць толькі за машыны для перараробкі гною. Наадварот: карова павінна і можа з лішкаю заплаціць малаком за свой корм і дагляд, а гной павінен заставацца дарма.

Але, каб карова давала даход, а гной—прыходзіўся дарма—трэба карміць яе, як вымагае натура жывёлы; трэба даваць ёй такі і столькі корму, каб хапала яго ня толькі для жыцьця самой каровы, але і для вырабкі малака.

Кожны корм мае ў сабе большую, ці меншую частку пажывы, якая толькі тады пойдзе на карысьць жывёле, калі яна распусьціцца у сьліне і ў соках жывата і кішок; залежна ад гэтых сокаў будзе з таго самага корму болей, або меней і карысьці для жывёлы.








**Жывот каровы.**

А. Месцо, кудэю праходзе яда; 1, жвач (рубец); 2, сетка; 3. кніжка; 4 сычуг; Б. прываратнік; В. пачатак тонкіх кішок.

Ператраўліваньне корму пачынаецца найперш у роце, дзе сьліна жывёлы, маючы ў сабе так званую „птіаліну", замяняе нераспушчаючыйся ў вадзе крахмал (а крахмал знаходзіцца амаль ня ў кожным корме) на цукер, якога кроў жывёлы лёгка ўжо можа карыстаць.

Дзеля гэтага, шмат спаміж нашых гаспадароў робяць вялікую абмылку, даючы каровам праз лад дробны корм, вараны, або раз-

баўлены вадой. На гэткі корм карова менш выпушчае сьліны, чым на корм грубейшы і сушэйшы, а значыцца і ня ўсю можа выкарыстаць для сябе пажыву, якая знаходзіцца ў ім.

Пэражованы і змочаны сьлінай корм—глытаецца і трапляе ў жывот. Жывот каровы, як паказана тут на рысунку, складаецца з чатырох частак. Корм спачатку ідзе ў першы жывот, які завецца рубец, або жвач, дзе—пры дапамозе сьліны, якая туды трапіла разам з кормам, і пры помачы досыць вялікага цяпла, якое трымаецца ў жвачы—часьць корму распушчаецца і ідзе, як паказана стрэлкай, проста ў сетку (чапец), а адтуль праз кніжку пападае ў праўдзівы жывот (сычуг). А той корм, каторы зразу не распусьціўся у жвачы, вяртаецца назад у рот і тут нанова добра і акуратна перажоўваецца, а пасьля ўжо ідзе проста праз сетку—ў кніжку, дзе як-бы наросты, бародавачкі яшчэ раз яго працірають і адбіраюць лішку вады і зусім ужо дробна перацёрты корм, быццам каша, трапляе ў сычуг, а там нераспушчаны бялок пры помачы мясцовых (з жывата) сокаў распушчаецца і усмоктываецца, а нераспушчаная тлустасьць—пры помачы жоўці, робіцца так сама прыдатнай і пажыўнай для цела жывёлы. Гэта самае робіцца і ў тоўстай кішцы, а ўжо саўсім нераспушчаные часткі корму выходзяць праз тонкіе кішкі калам.

Гэткім парадкам мы бачым, што самае травеньне корму адбываецца ў сычугу, першые тры часьці жывата жывёлы толькі падгатаўляюць гэты корм, каб быў прыгодным для карыстаньня з яго.

Кожны корм, як гэта перакаваліся навучна, складаецца: з бялку, амідаў, угляводаў, тлустасьці і дрэвасіны, значэньне якіх для арганізму жывёлы можна разьдзяліць на дзьве часткі: першая — гэта такіе часткі, каторые ідуць як матар'ял на карысьць і павялічэньне мяса, мускулаў і малака—гэта бялковые часткі і крыху амідаў. Другая часьць корму, як угляводы і тлустасьць, а крыху дрэвасіна — складаюць матар'ял жывёле для тлустасьці і падтрымліваньня цяпла ў целе.

І вось, уся тут справа ў тым, каб у корме, які даецца карове, досыць хапала паводлуг яе тушы—вагі і паводлуг таго ліку малака, якое яна можа даць—усіх тых патрэбных частак.

З апісаньня і рысунку жывата каровы, мы можам прыкмеціць, што ён куды хітрэй наладжаны для выкарыстаньня пажывы з корму, чымсі, напрыклад, у каня, ці сьвіньні.

Навукай даказана, што карова на кожные тысячу фунтаў жывой вагі павінна адтрымаць у корме: 260 грамаў бялковых частак, каб падтрымліваць сваё жыцьцё і апрача таго 135 грамаў на першы гарнец малака, або на рост цяляці ў нутры каровы; разам, значыцца, 395 грамаў бялковых частак. За кожную далейшую лішнюю кварту малака мы павінны даць карове 36 грамаў бялковых частак.

Што да крахмалу, тлустасьці і іншых частак харчоў, дык замест досыць труднага падлічваньня кожнай з гэтых лічбаў, мы будзем карыстаць так званым, эквівалентам (роўназначучым) крахмалу, ў якім узяты пад увагу ўсе гэтые складные часткі корму.

І так: мы павінны пільнаваць таго, каб у корме каровы для падтрыманьня жыцьця яе на тысячу фунтаў жывой вагі было 7 фун-

тау (2,7 кілёграм.) эквіваленту крахмалу і апрача таго, каб даць першы гарнец малака—540 грамаў таго-ж эквіваленту. За кожную лішнюю кварту малака мы павінны дабаўляць 135 грамаў эквіваленту крахмалу.

Дэтальные лікі бялковых і крахмальных частак, паводлуг вышэй сказаных нормаў—гэта і ёсьць падстава рацыянальнага і самага эканомнага корму жывёлы; бо толькі пры гэткіх варунках, як бялковые так і крахмальные часткі будуць належна выкарыстаны і дадуць спадзяваные рэзультаты.

Лішка якой-небудзь з гэтых частак ніколі не заменіць адна другой.

Намячаючы штодзенны корм для кароў, мала таго, каб тольк зварочваць увагу на патрэбны лік спажыўных частак, бо трэба яшчэ зьвярнуць увагу і на колькасьць сухой масы (гэта ня значыць—сухога корму), балясту, сакавітасьці, роўная мера корму, колькасьць асобных кормаў, у якіх ёсьць фосфар, вапна, патрэбных таксама для жывёлы.

**Сухая маса.** Траўленьне у каровы пачынаецца тады толькі, калі запоўняцца кормам некаторые часткі жывата яе. Практыка вучоных людзей паказала, што самы меншы лік сухой масы на 1000 фунтаў жывой вагі каровы, пры якой пачынаецца траўленьне — 15 фунтаў (6 кілёгр.); самае большае-ж не павінна пераходзіць 35 фунтаў сухой масы (14 кілёгр.) на 1000 фунтаў жывой вагі.

**Баляст.** Ня ўсю колькасьць сухой масы корму—карова можаператравіць; некаторая частка яго—так званы баляст—застаецца нявыкарыстаным.

Трэба ведаць, што арганізм каровы прымае толькі частку балясту, колькі можа прыняць яе туша, а лішка яго толькі можа зашкодзіць карове.

Самая большая колькасьць балясту не павінна быць больш 10 фунтау, лічачы на 1000 фунтаў жывой вагі; значыца—у болей малочных кароў, якім трэба большая колькасьць кормаў, мы павінны падбіраць харч, які мае менш балясту.

**Сакавітасьць.** Патрэбна зьвярнуць увагу ў корме кароў яшчэ на тое, каб падчас зімовага кармленьня каровам хапала сакавітых харчоў (клубнёвых), бо сок іх вельмі добра спрыяе траўленьню і прыбаўляе малака.

Акуратны і сталы харч праз увесь год—гэта і ёсьць самая важная справа, калі мы хочам мець даход з каровы. Ніколі не павінна быць недахватаў у корме, а асабліва трэба зьвяртаць увагу на пераход з летняга на зімовае кармленьне і наадварот. Гэтые пераходы —зьмены ў корме заўсёды найбольш адбіваюцца на колькасьці малака у кароў.

**А. Папроцкі.**

## Харчаваньне кароў пры даеньні.

Харчаваць кароў калі іх дояць ня можна. Калі карова есьць і доіцца пры гэтым разам, дык карова зьменшае удой, а той харч, што ужывае, не перажоўваецца як трэба.

Практыка паказала, што ў тых гаспадарках, дзе кароў пры даеньні кармілі, удой быў меншы, а як пачалі карміць кароў у другі час, то удой быў большы.

Кожны разумее, што гэта так, калі скажам, што найбольшая частка малака вырабляецца каровай пры самым даеньні ад прыліву крыві да вымя, а калі жывёла яшчэ і харчуецца разам з даеньнем, дык ёй прыліў крыві патрэбен і да галавы, дзе сьлініцца і жуёцца харч.

Дзеля гэтага калі карова разам харчуецца і доіцца, дык вырабляецца менш малака, або дрэнна пераж оўваецца і сьлініцца харч, што пасьля адзываецца на здароўі жывёлы.

Н. Б.

---

## Гадуйце козы!

З хатніх жывёлаў бязумоўна найкарысьнейша будзе каза, дзеля здаровага, тлустага і смачнага свайго малака і дзеля таго, што яна не вымагае ні асобных харчоў, ні дагляду. У бяскорміцу сьмела можам сказаць, што каза вытрывае харчуючыся аднымі бярозавымі венікамі; ды і так яна есьць мох, кару, лісьце, травы, якіх саўсім ня ўжывае карова. У харч ей можна зімою прыбаўляць да 25% саломы, жывот яе добра варыць і салому.

У Швэйцарыі, дзе казаводзтва дайшло до найвысшага росквіту, вылічавана, што на утрыманьне аднэй каровы можна харчаваць 8 козаў. А такі лік козаў дасьць куды значнейшую карысьць, як адна карова. Лічачы, што у сярэднім малочная каза у год дасьць 45 вёдраў малака, а карова—150, будзем мець лішкі на адным малацэ каля 210 вёдраў.

Апрача гэтага, замест аднаго цяляці, якое прывядзе карова, ад 8 козаў будзе ня менш як 12 казянятаў, каштуючых куды болей як адно цяля.

Мясо казы ня горш кароўяга, а казянят куды смачней і каштуе даражэй, з скуры казянят і козаў вырабляюць найдалікатнейшую лайку ды сафьян. З шэрсьці козаў робяць багатые тканіны, вядомые сваім гатункам з іх Орэнбургскіе хусты. Козі гной у гаспадарцы займае першае месцо, бо расьліны на ём растуць надта добра.

Казінае малако самае здаровае для дзяцей. Ім сьмела можна карміць дзяцей сасуноў, бо яно найбліжэй падходзіць да кабечага малака. Казінае малако здаровае тым, што козы амаль што саўсім не хварэюць на сухоты, тады як каровы часта хварэюць сухотамі. Для дзяцей да 3—4 гадоў найлепшым харчам будзе казінае малако, зьмешанае з аўсянай мукой.

З казінага малака робіцца вельмі смачны, дорага каштуючы сыр, робяць і масло, але яно горшае ад кароўяга.

З малочных козау найлепшымі лічацца швэйцарскіе белые, з а а н н е н с к а я, ці з а а н е н т а л ь с к а я; нямецкіе — л а н г э н з а л ь ц с к а я (і тые і другіе камолые).

Ангорскіе козы даюць найдалікатнейшую шэрсьць.

**Т. Імшэнік.**

# Гадоўля кролікаў.

Як каза лічыцца кароўкай бедака, так зусім справядліва можам назваць кроліка—мясам бедака. І калі дагэтуль у нас мала зьвернена ўвагі на гадоўлю кролікаў, ці — як іх называюць—трусоў, то на гэта складаецца дзьве глаўные прычыны: перш-на-перш няма ведама дзеля чаго шмат хто у нас брыдзіцца мясам кроліка, як брыдзяцца некаторые ў Расіі мясам зайца, называючы яго дзікім катом. Другая прычына—яшчэ лепш нам знаная, старая: прывыклі мы брацца толькі за такую работу, каторую нашы суседзі за граніцай даўно ўжо выпрабавалі на ўсялякіе способы і шырока яе вядуць. Гэтак і з гадоўляй кролікаў.

У Францыі, напрыклад, гадоўля кролікаў вельмі распаўсюджана. У аднэй сталіцы Францыі—Парыжы расходзіцца кролічага мяса больш 50 тысячаў пудоў у год; прадаюць яго там і з гэтага гандлю ня мала людзей маюць добры заработак, бо за адно мясо, ня лічачы скурак і адпадкаў, выгандёвуюць вялікіе грошы.

У Бэльгіі ёсьць фабрыка, ў каторай выробляюць скуркі кролікау, дзе цэлы год працуе 2000 работнікаў. Колькі-ж такая фабрыка вырабляе скурак гэтых праз адзін толькі год?

А трэба ведаць, што з забітага кроліка нічога дарма не прападае: зімовые скуркі яго за граніцай стрыгуць і фарбуюць пад колер дарагіх зьвяркоў, як куніц, бброў, харкоў, і г. д. і гэтак сфальшаваные прадаюць за дарагіе цэны ў Расію; волас з летніх скурак кролікаў ідзе на фільцовые капялюшы, рукавічкі, а самая скурка, як і цялячая—на далікатные боцікі і інш.; кішкі кролікау ідуць на струны; вушы і лапкі—на клей; трыбухамі кормяць сьвіней — словам — з усяго карысьць і даход.

Само-ж мясо кроліка чыстае і здаровае і, як паказала навуковая проба—аналіз, вельмі страўнае і пажыўнае, бо мае ў сабе больш бялковых частак, чымсі якое іншае, ўжыванае ў нас, мясо;

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| сьвініна мае ў сабе | бялк. | част. | | | 16% |
| ялавічына | „ | „ | „ | „ | 20% |
| кролічае мясо | „ | „ | „ | | 25% |

У Англіі і Францыі хворым у шпіталях даюць, як больш далікатнае і прыгоднае, мясо кролікау.

У Нямеччыне ёсьць спэцыяльные крамы, дзе прадаюць мясо толькі кролікаў. Наскольні цікавяцца немцы справай гадоўлі кролікаў, відаць ужо з таго, што там друкуецца і расходзіцца дзесяць розных газэт, каторые пішуць толькі аб кроліках.

З усяго гэтага мы бачым, як паважна займаюцца ўсе культурные гаспадарствы гадоўляй кролікаў; на гэту справу глядзяць яны, як на новую даходную стацьцю, каторая можа прыспорыць багацьця для роднага краю. Пара і нам зьвярнуць увагу на гадоўлю кролікаў; пара тым больш, што гэты новы для нас даход можна мець пры найменшай і найбяднейшай нават гаспадарцы і не вымагае ані такога вялікага ўжо клопату, ані такога вялікага накладу.

Само сабой разумеецца, што меншы, ці большы даход з гадоўлі кролікаў будзе залежаць ад таго накладу і даходу, якіе мы да гэтага даложым.

Для прыкладу успомню тут аб адным селяніне з вёскі Малой Сямёнаўкі, Балашоўскага павету, аб каторым ёсьць апісаньне ў № 2 „Хлібароба" 1914 г.

Купіў гэты селянін адну пару кролікаў за 25 к., а другую—за 15 к. Паміж імі быў адзін самец і тры саміцы. Кролікаў пусьціў ён у адрыну, дзе было зложано сено. У лютым месяцы саміцы прывялі 21 штуку маладых; такі самы прыплод быў у марцы і ў канцы красавіка. Да серпеня кролікаў было ўжо 120 штук, а ў лістападзе набралося іх 300 штук. Тады самцоў адсадзілі асобна. Калі зарэзалі першага труса, то сямейка гаспадара не магла адважыцца яго есьці, але у скорасьці прывыклі да мяса кролікаў ня толькі самі, але і суседзі. 200 штук кролікаў зарэзалі на мясо, а даход быў такі: 50 пар прадалі жывых па 50 к. за пару—25 руб.; 2 фунты пуху кролічага па 3 рублі за фунт—6 р.; 180 скурак па 25 к.—45 р.; 20 скурак, выробленых самім гаспадаром, па 50 к.—10 р.; мяса 12 пуд. 20 фунт. па 10 к. за фун.—50 р., а за усе, значыцца, 136 руб. Калі-ж адлічыць кошт корму кролікаў па 25 к. на штуку—75 рубл., то чыстага даходу застанецца 61 руб.

Гэткі даход, як бачым, адтрымаў гаспадар бяз ніякага, можна сказаць, накладу і рызыкі, пры саўсім малым расходзе. Саўсім іншая справа, калі хто захоча заняцца спэцыяльна гадоўляй кролікаў і мець з гэтага і сапраўды добрую грашавую падмогу пры сваёй хоць і невялічкай гаспадарцы: тут прыдзецца ўжо зрабіць і крыху накладу грашыма і прылажыць больш сваей працы.

Хто маніцца заняцца гадоўляй кролікаў, каб мець з гэтага як найбольшы даход, павінен перш на перш лічыцца з мясцовымі варункамі, зважаючы на тое, з чаго на месцы можна мець лепшую карысьць: з мяса, ці са скурак і пуху кроліка; бо трэба ведаць, што гатункаў трусоў ёсьць шмат і адны спаміж іх даюць больш мяса, але скуркі іх менш цэняцца; іншые зноў кролікі хоць самі важаць і нямнога, але іх пух дарагі.

Дык разгледзім некаторые, больш падхадзячые для нашых варункаў, гатункі кролікаў.

**Кролікі на мясо.** Спаміж гатункаў трусоў, каторые найбольш прыгодны на мясо—гэта Летарынгскі і Фляндрскі.

**Лётарынгскі кролік** важыць 12—15 фунтаў; ён не пераборлівы на яду і вельмі вытрывалы на усялякую пагоду, дзеля гэтага Лётарынгскі кролік падходзіць да нашых кліматычных варункаў.

**Фляндрскі кролік** мае вагі 13—15 фунтаў, а трапляюцца некаторые штукі і па поўпуда. Мясо іх вельмі смачное, ня уступіць найлепшай цяляціне, а выкормліваюцца надта скора. Кролікі гэтага гатунку спакойные, характару ласкавага і не пераборлівые ў ядзе. Скуркі іх маюць так сама добры збыт. За граніцай пара такіх кролікаў цэніцца 6—8 рублёў.

Дык вось гэтые два гатункі кролікаў, як Лётарынгскі і Фляндрскі і трэба прызнаць, найбольш прыгоднымі для гадоўлі ў нашым краі на мясо. Але, пакуль што, як ведама, ў нас людзі саўсім яшчэ мала прывыкшы да кролічага мяса, дык гадуючы мясных гатункаў кролікаў у большай колькасьці, можа быць тая рызыка, што ня будзе куды збываць іх мяса. Дзеля гэтага,—ў нас, бадай, пэунейшы рахунак і менш рызыкі заняцца гадоўляй кролікаў, даход з каторых самы важны бывае не з мяса, а з іх пуху і скурак. Тым больш варта гэтым заняцца, што збыт на кролічы пух заўсёды забясьпечаны, бо ён ідзе на розные далікатные вырабы ня толькі у нас, але і за граніцай і цана на яго заўсёды трымаецца высокая. Скуркі-ж кролікаў так сама, што раз больш і больш расходзяцца, дык і за іх цану плацяць добрую. Ды гэта саўсім і зразумела. Лясы нашы растаюць як сьнег; з кожным годам колькасьць зьвяркоў з цёплымі скуркамі што раз зьмяншаецца; на бедную вавёрку—абы асачылі—чуць не аблавай ідуць людзі, —вось і прыходзіцца штукавацца ня толькі лепшымі, кролічымі, але нават добра падгрэпанымі зайчымі.

**А. Вілецкі.**

# Якую ляпей рабіць падсьцілку.

Моц у гнаі ня бывае роўная, гэта добра ведае кожны гаспадар. Кожная жывёла дае інакшы гной. Моц у гнаі ня столькі залежыць ад самой жывёлы, колькі ад гатунку харчоў і ад гатунку падсьцілкі.

Вучоные гаспадары, каб пазнаць які гной найлепш, рабілі з ім усялякіе пробы і праканаліся вось на чым.

Калі рабіць падсьцілку з аднэй саломы, хоць класьці яе шкадуючы, гэткі гной найкарысьней вывозіць на поле сьвежым, не чакаючы пакуль ён у хлеве саўсім перагніе. Вывозіць яго трэба на поле дзе-б ён мог завораны ляжаць у зямлі як найдаўжэйшы час, і там—на месцы—ў зямлі ўжо павінен перагніваць. З гэтага відаць, што сьвежы гной найляпей вывозіць у поле на зіму і прыворваць яго, альбо з вясны на папар, каб ён меў добры час перагніць у зямлі.

Калі-ж саламяны гной павінен ляжаць праз доўгі час у хлеве і там перагніваць, каб ён ня траціў сваей моцы, трэба, канешне, дадаваць яшчэ інакшай падсьцілкі, альбо прасушанага торфу, ці ляснной падсьцілкі, мох з лісьцем разам, альбо купік з сенажацяў, ці хоць зямлі з равоў, каўдобін і інш. Зямля, як і торф уцягвае ў сябе гнаявую жыжку і ад гэтага робіцца гной крапчэйшы і карысьнейшы.

У саламяным гнаі ўзгадовааюцца жыўчыкі, так званые бактэрыі, які харчуюцца і зьніштожаваюць у ім тое (салетра), што найкарысьнейшае для прыбытку зерняці.

У конскім гнаі большая моца ў мачы, чым у самым кале; але гэтая моц мачы гіне, калі рабіць у стайні падсьцілку з аднэй толькі саломы; трэба хоць пакрысе штодня пацярушыць зямлёй ці торфам,—усё багацьце гною застаецца ў гэткай падсьцілцы тады толькі можа быць давезены бяз страты на поле.

Пераканацца ў гэтым лёгка можа кожны гаспадар.

Пасьля ночы калі адчыніш стайню адтуль б'е дух, гэты дух, што так дае ў нос і ёсьць самая моц конскага гною—яго мачы (амьяк), які вытыхае і, значыцца, дарма гніе. Падсыпаўшы з вечара зямлі ў стаўню, а назаўтра гэтага духу ані званьня, бо зямля ўсю мачу уцягвае у сябе і толькі ўжо на полі пасеяные зёрны выкарыстаюць патрэбные харчы з гэтай моцы.

Якая моц і якая карысьць з конскай мачы можна пераканацца з тых густых, цёмных буйных кустоў збажыны, які ўзрастаюць на полі на тым месцы, дзе, ў часе воркі, вымачыўся конь.

Вось яшчэ адна важная справа і парада.

Узіму, калі час вільготны, ды і ў будынку бывае цесна з гноем, прыходзіцца яго вывозіць на поле.

Як-жа яго там складаць так, каб найменш было глуму. Раскідаюць гной у маленькіе кучкі. Гэта-ж глум—страшэнны глум!

Вывозячы гной зімою трэба яго, калі ёсьць магчымасьць (невялікі сьнег) усьлед раскінуць роўненька жалезнымі віламі па полі, або складаць у вялізарные кучы, перакладаючы яго зямлей, торфам, сьнегам у сярэдзіне і так сама прыкрываючы зьверху.

Г.—р.

# Распрацоўка ялавін на гляіста-вільготных і балацяных глебах.

Кожнаму гаспадару вядома, што калі якую доўгатэрмінную ялавіну выпрацаваць пад ніву, то яна у цягу многіх гадоў бяз ніякага ўгнаеньня даець досі значные ўроды.

Вядома, што гэта ўроднасьць ялавіны залежыць ад запасься у глебе яе за час муражына, лесу ці іншага становішча перагною. Перагной ялавіны заусёды ў сваім складзе маець частку такога, які хутка разгнівацца і пад уплывам квасоў і соляў глебы пераходзіць у харчовые стравы, мажлівые дасягу расьлін. Па разробе ялавіны варункі разгнаеньня перагною досі зьмяншаюцца, мажлівы гнаіцца перагной хутка пераходзіць ў харчавые стравы, даець іх многа і гэтым запэўняець у першые гады па распрацоўцы ялавіны вялікіе ўроды.

Гэтак-жа у запасьсі ялавіны ёсьць такі перагной, які разгніваецца дужа цяжка і даець штогодна невялікі лік харчавых страў. Але як

у ялавіне за доўгі тэрмін запасіцца многа такога перагною, дык ён хоць разгніваючыся і памалу даець харчавых страў у дастатку пасярэдніе ўроды, якіе і трымаюцца у цягу доўгага часу, пасьля першых па разробе вялікіх ўродаў.

Мне-ж часта прыходзілася чуць скаргу сялян, што распрацованная доўгатэрмінная ялавіна нятолькі не дала якую-колечы ўроду, але чуць зьвярнула насеньне. Пры чым дрэнные варункі надвор'я, вырабу шкадлівай жыўнасьці і інш. не маглі там мець месца і ў той самы год, старапольлі далі добрые ўроды тэй самай збажыны.

Тлумачыцца гэта тым, што няўроды незалежны ад іншых варункаў, апрача глебных, ў першые гады распрацоўкі ялавіны, здараліся на вільготна-гляістых і балацяных глебах, глебах багатых перагноем, але дужа **к в а с н ы х**, што і было прашкодай добрай выгадоўлі расьлін.

Квасьнасьць глебы асабліва шкадліва на ўзыходзячую збажыну, зачым яна ўзрастае рэдкай. Вось гэта квасьнасьць глебы і ёсьць прашкодай вялікіх ўродаў у першые гады распрацоўкі ялавін, пакуль гэта квасьнасьць не ўсярэдніцца сама па сабе, на што патрэбен час некалькіх гадоў.

За гэтым карысна якім-небудзь парадкам ўсярэдніць квасьнасьць глебы ў пачатку распрацоўкі ялавіны, што і дасягаецца **в а п н а в а н ь н я м і** гэтых глеб.

Аб вапнаваньні глеб будзе гаворана ў чарговым нумары.

**Аграном М. Г—к**

# Сарадэля.

Як лубін, так і сарадэля можа расьці і на дрэннай зямлі, на ялавінах.

Расьце сарадэля найлепш на лёгкай зямлі, дзе мала вапны, на макраватых кусках, але ня любіць калі падыспадам блізка вада ёсьць.

Сарадэлю гэтак сама, як лубін, добра заваравоць на зялёны гной, яна папраўляе зямлю.

Аднак лепей яе скарміць перш скацінай, а пасьля вывезьці гэты гной, бо корм з сарадэлі надта добры, скаціна будзе тлустая і гною шмат, каровы вельмі ласа ядуць сарадэлю на зялёны корм. Ад яе каровы даюць шмат малака і сарадэля не раздувае кароў, як канюшына, дзеля гэтага можна яе даваць уволю есьці каровам.

Сеяць трэба сарадэлю, як і кожную ярыну—вясной. Высяваць на дзесяціну каля 2 пудоў ($1^1/_2$—$^1/_2$ пуд.). А дзеля таго, што зерняткі сарадэлі маленькіе, дык забарановаваць яе трэба вельмі лёгка, на якіх чверць або поўцалі.

Поле пад сарадэлю трэба выраблядь і ачышчаць ад зеліва, дзеля таго, што яна спачатку расьце вельмі марудна. Сьвірэпіцу, асот трэба касіць паверх сарадэлі, каб ня глумілі яе. Найлепш разрастаецца сарадэля, як ужо пачынаецца жніво. Калі на пачатку сарадэля падымаецца

марудна, ня трэба думаць, што яна прапала. Трэба толькі пільнаваць, каб зельле яе ня глушыло. Дзеля гэтага найлепш сарадэлю сеяць па жыце, ад раньняй вясны, аж да часу калі яно пачынае красаваць, бо жыто яе ня глуміць, у жыці няма зельля. Як пажнецца жыто, сарадэля пачынае разрастацца, а увосень яе можна скасіць на сухі корм, або спасьвіць на полі скацінаю.

На сухі корм найлепш сарадэлю касіць тады, калі яна красуе, бо гэта можа зацягнуцца аж да прымаразкаў. Калі будзем касіць сарадэлю, як яна ужо з два тыдні красавала, дык будзем мець добры харч і насеньне.

Скасіўшы сарадэлю, сушыць яе трэба ў копнах як і канюшыну, але дзеля таго, што яна вельмі далікатная, ня трэба часта варочаць, каб не абтрусіць лісточкаў і струкоў.

Калі малоцяць сарадэлю, дык абсыпаецца шмат лісьцейкаў, гэтымі лісьцейкамі карысна харчаваць сьвіней, а сьцяблы можна даваць каровам і коням.

Насеньня сарадэлі зьбіраецца з дзесяцціны ад 10 да 50 пудоў. Сена з сарадэлі зьбіраецца каля 100—200 пудоў з дзесяцціны, а зялёнага нясушанага харчу—600—1000 пудоў з дзесяцціны.

**Л. С—кі.**

# Нехваткі трохпольля.

**Агульнай** сыстэмай сельскай гаспадаркі Беларусі есьць пастарэўшае трохпольле, толькі маёнтные гаспадаркі маюць у нас многапольные формы паляводзтва, што павінна легчы і ў грунт вясковай гаспадарнасьці.

У трохпольлі ўсё воранае поле дзеліцца на тры кліны, пладазьмен іх гэтакі: 1) азім, 2) ярына, 3) папар, пры чым пашай абслугоўе, за выключэньнем гаспадарак, маючых збочные натурные пашы, зьмена папару, адсюль: 1) заворыво яго ўпару ніколі немагчыма, а гаварыць аб канешным яго ворыве з восені ці вясны, ня прыходіцца. Заворываць папар у такіх гаспадарках магчыма толькі у касьбу, ці жніво, як даецца скаціне іншая паша, і гэткае позьнее ворыво з далейшым вырабам папару перш за ўсё сказуецца на уродзе. 2) Паша голага папару ня можа даць патрэбнага харчаваньня скаціне гаспадаркі, прадукцыйнасьць якой зьменшуецца на многа, што балюча адзываецца на усей гаспадарцы і асабліва на паляводзтве. 3) Паша скаціны па папару убівае яго, што з далейшым яго вырабам (нечасовае ворыво і інш.) стварае зьбітасьць і зьменшае пульхнасьць, а гэта мае вялікі ўплыў на запашэньне харчавых страў і на магчымасьць зьдзержываць вільгаць.

Нечасовы выраб, кепская пульхнасьць глебы, бязсыстэмнасьць пладазьмену (пры трохпольлі сыстэміруецца, толькі азіма ды ярына, а віды—апошняй у сваім полі гадуюцца бяз усякай сыстэмнасьці)

саздаець варункі лепшае ўзгадоўлі непатрэбных дзікіх расьлін, чымсі гаспадарскіх.

Дзікія расьліны апрача сваей шкадліваосьці, ў сваю чаргу даюць магчымасьць лепшай ўзгадоўлі, шкадлівай жыўнасьці і паразытных расьлінаў.

Гадуючы гаспадарскіе і др. расьліны, глеба траціць харчоўнасьць, згоршуе сваю пульхнасьць і дзеля зьменшаньня гэтага павінна час ад часу мець аддуху, калі адтрымаўшы угнаеньне і добры выраб, зноў станэ прыгоднай дзеля выгадоўлі расьліны.

Такую аддуху поле адтрымовуе ў час папару.

У трохпольлі, як мы бачым поле адпачывае праз 2 гады, але такое становішчо папару, якое мы тут бачым у трохпольлі, ня можа звацца аддухай, зачым варункі перагнаеньня і запасься харчавых страў ня могуць мець месца ў дастатку пры трохпольлі, што зноў сказуецца па ўродах.

Пакінутая штогод ½ ворыва пад папарам, зьменшае значна прадукцыйнасьць гаспадаркі, а згоршаньне глебы хімічна і мэханічна вядзе гэту прадукцыйнасьць па шыбкаму спуску ўніз.

| | 1 пол. | 2 п. | 3 п. |
|---|---|---|---|
| 1 год | папар | азім | ярына |
| 2 год | азім | ярына | папар |
| 3 год | ярына | папар | азім |

**Схэма трохпольля.**

**Аграном М. Г-к.**

---

# Дагляд табакі.

## I.

## Як трэба палоць і абкопваць табаку.

Найбольшая карысьць для табакі ў пільнаваньні каб не расло ніякай нягоднай травы і каб грунт быў пульхны. Калі няма нягоднай травы, раскашней ідзе разьвіцьце лісьцяў табакі і хутчэй пачынае красавацца; так сама, дзеля гэтага, абкопваюць табаку і дзеля таго, каб мацней трымалася ў зямлі галіна і каб ад ветру не паламалася, абкопываць трэба ня вышэй як на ½—1 вярш. ўвышыню і трэба берагчыся каб не загарнуць зямлёй першых сподніх далікатных лісьцейкаў.

Так як у нас нядоўгае лета і восень вільготная, то трэба сьпяшацца, каб табака пасьпела і высахла ў пару; дзеля гэтага ня можна болей аднаго разу абкопваць.

II.

## Як трэба зрэзваць цьвет і бакавые галіны.

Як пачынае цьвісьці табака гэта самая найважнейшая для табакі пара. У гэтую пару тым ці іншым спосабам, можна павялічыць ураджай лісьцяў.

А гэта робіцца пры помачы спосабаў: рэзаньня цьвяточных верхавінак і бакавых галінак і тых што ідуць з карэньняў (пасынкаваньня).

Калі мы у табакі зрэжам верхавінку, праз некалькі дзён убачым, што ў мясцох, дзе расьце лісьцё каля самай галіны (лісьцявые пазухі) пачнуць вырастаць галінкі, гэтые галінкі завуцца пасынкамі, а калі іх абрэзаваць—завецца пасынкаваньнем.

Карэнявые галіны зараз-жа з'яўляюцца як толькі абрэжуць бакавые галіны, іх трэба, абавязкова, хутчэй зрэзаць яны шкадлівы для ўсей табакі.

Ад абрэзаньня (пасынкаваньня), як вышэй напісана, робіцца гатунак табакі лепшым, бо ад гэтага залежыць ўзрост лісьцяў, таўшчыня іх, моц табакі і інш. Цьвяточные верхавінкі і бакавые галінкі зрэзваюць ў розную пару, гледзячы на тое, якой моцы патрэбна табака.

Калі патрэбна моцная табака, дык абавязкова трэба абрэзаць цьвяточную пупушку як толькі яна вылезець і разам з ёй ад 4 да 6 маленькіх лісьцейкаў. Апрача таго трэба пільнаваць і абрэзваць бакавые галінкі (пасынкі) калі яны вырастуць ў $^1/_2$ верш. ў даўж.

Моцная табака звычайна ўдаецца на моцных тлустых грунтах.

Калі хочуць, каб табака была сярэдняй моцы, дык тады цьвет трэба зрэзаць у тую пару, калі ён добра закрасуецца, або ужо ў канец красаваньня.

Пры гэтым трэба абрэзаць 3—5 верхніх лісьцейкаў. Бакавые галіны, у гэтакім выпадку адрэзваць калі вырастуць у даўж. ў 2 вяршкі.

На зямлі сярэдняй уродласьці, асабліва, калі у ёй ёсьць процэнт пяску, выходзе найлепшая табака. Хаця ураджай будзе меншы, але колер і пах дыму будзе шмат лепшы, чымсі на надта тлустым і цяжкім грунце. Калі мы адрэжам красачные пучкі, калі яны распукнуліся толькі напалову і адначасова зрэзалі некалькі верхніх лісьцейкаў, а бакавые галінкі абрэзаць як толькі яны дарастуць да 1—$1^1/_2$ вяр; гэта будзе табака сярэдняй моцы.

Дзеля таго каб мець табаку лёгкую на такім-жа грунце, красак мажліва ня зрэзваць саўсім, ці зрэзваць разам з 2—3 лісьцейкамі ў момэнт іх поўнага красаваньня.

На бедных грунтох выходзе толькі лёгкая табака (ня моцная), якая хаця і будзе добрага гатунку, але ўроды дасьць меней, чымсі у тых выпадках, якіе вышэй гавораны. На лёгкім грунце верхавінкі табакі адрэзваюцца як толькі зьявіцца красачная пучка; разам з ёю адрэзваюцца 2—3 верхніх лісьцейкі. Бакавые-ж галіны зрэзваюцца калі вырастуць у $^1/_2$ вяршка.

Ня гледзячы на вышэй напісаные тлумачэньні (правілы), немагчыма сказаць якая табака вырасьце: сярэдняя, ці вышэй-сярэдняе; сярэдняя ці слабая.

Трэба мець вялікую практыку, добра ведаць грунт, якая бывае пагода і інш.

Трэба памятаваць яшчэ тое, што на аднэй галіне табакі розные лісьця маюць розную моц.

Самые ніжэйшые 2—3 лісты найслабейшые, сярэдніе—мацней—ніжэй сярэдніх і верхніе—наймацнейшые.

**Агранам В. Ш.**

# Штучнае раеньне пчол.

Па першай вясновай чынасьці, калі пасека давядзецца да добрага стану праз спэкуляцыйнае харчаваньне, лужэньне слабых і бяз матак, цяпер прышла пара засяленьня слабейшых праз даваньне крытае чэрвы і маладых пчол.

Робіцца гэта вось як: у ціхі пагодны і цёплы дзень, калі пчолы будуць на палёце, бярэцца у ройніцу ад дужа моцнай сямьі ад 1—2 рамкі з крытаю чэрваю, пазбмятаўшы добра маладых пчол з гэтых рамак і дадаецца да слабых. Пры гэтай чыннасьці трэба уважаць добра, каб не забраць маткі з вульля, з якога бярэцца чэрва і маладых пчолаў.

Мэта пчаляра дваякая: павялічыць пасеку, або выкарыстаць на мёд.

Павялічыць пасеку можна гэтак: дапушчаць да натуральнай ройкі пчаляру ня выгадна, бо трэба пільнаваць пчол ад гадзіны 8 з рана да 4 ўдзень, пчолы перад ройкай кепска працуюць, частка іх разлётуюцца іскам, шукаючы сабе новай сядзібы, а рэшта вісяць ланцужком у вульлі. Трэба запабягаць гэтаму і рабіць раі штучные. Штучные раі робяцца гэтак: у цёплы і ціхі дзень, калі ўсе старые пчолы на палёце, трэба выбраць наймацнейшы вулей, запоўнены ад 14 да 16 рамак, прыгатовываецца парожні вулей і становіцца на месцо моцнага, а моцны адносіцца трохі ў бок і з моцнага вульля палавіну рамак пераносіцца ў парожні, але трэба абавязкова з гэтых рамак абмесьці маладых пчол, і дадаецца старая матка, тады да яе зьляцяцца з палётку старые пчолы і вырай гатоў. Стары вулей з маладымі пчоламі і крытаю чэрваю аднесьці на крокаў 40 на новае месцо; даць, калі есьць, запасную матку або крыты матачнік, а калі іх няма, дык самі заложаць з някрытае чэрвы.

Другім спосабам павялічэньне робіцца гэтак: з некалькіх вульлёў у ройніцу наабмятаць маладых пчолаў і адбіраць з крытай чэрвай рамак 4—6 і ўсе гэта пасадзіць у новы вулей і так сама матку, або крыты матачнік, а калі іх няма, самі заложаць матачнік. Як у адным, так і ў другім разе бяручы крытую чэрву, ці абмятаючы маладые пчолы трэба прыглядацца, каб не забраць маткі, а устанаўляючы

гняздо краявые рамкі, каб былі бяз чэрвы і каб гняздо было пакрыта пчоламі, гэта значыць, каб чэрва абсядалася і не зазябла, а калі-б тае было замала, то дадаць маладых пчол з другіх вульлёў.

Пакуль маладые зробленые раі стануць лятаць у поле, трэба на вылёты класьці змачыўшы губку ці шкумацінку ў вадзе крыху падсоленай, ім гэта патрэбна для чэрвы і свайго прагненьня, бо мёд і пылок у вульлі маюць, а вады ня маюць. Потым, праз 2—3 нядзелі трэба праканацца, ці шчасьліва запладзіліся маладые маткі—ці кладуць яечкі.

**В. Русецкі.**

Хто хоча зрабіць якіе запытаньні па пчалярству ці аглядзець паказную пасеку ў Менску, хай зьвернецца ў рэдакцыю.

**В. Р.**

# Як усьцерагчы гусянят каб ня дохлі.

Часта бываець, што ў гарачае лето гусяняты падыхаюць.

Як толькі захварэе гусянё, то яно апускае крыльля, ходзіць як п'яное, неахвотна шчыпле траву, пішчыць жаласным голасам, лапы і дзёўб бялеюць, адстае ад стада і праз колькі дзён падыхае. Чым гарачэйшае лето, тым больш падыхае гусянят.

Ведама, што гусей на-нач заганяюць у маленькі хлявок, дзе яны ўночы выпаражніваюцца.

Але трэба ведаць, што гуска на тым месцы, дзе спаражнілася ня сядзе, а шукае сьвежага чыстага месца. Знача сама прырода іх паказавае ім, як берагчыся ад хваробы.

За колькі дзён, у гарачыню, у хлеве, ў гусячым гнаі разгадовуюцца жывучкі (мікробы) і заражаюць увесь хлеў.

Каб усьцерагчы гусей ад хваробы, канечне, трэба кожны дзень гусячы гной пасыпаць нягашанай вапнай, або сухім торфам, паверх гэтага наслаць саломы, якую прысыпаць зямлей; сьцены ў хлеве трэба тры разы ў тыдзень бяліць вапнай, або змываць карболевым квасам, а лепш за ўсё гусей на-нач пакідаць на дварэ і кожны дзень выгнаўшы на пашу, гной зграбсьці ў хлеў і засыпаць яго там зямлёй, а раз у тыдзень надворак, дзе начуюць гусі, пасыпаць вапнай, або торфам.

Калі-ж пры гэтым які ґусёнак захварэе, дык яго, канешне, трэба адлучыць ад здаровых.

Калі рабіць гэтак, як тут казане, то гусяняты, напэўна, падыхаць ня будуць і набярэцца некалькі вазоў надта добрага гною.

**Практычны гаспадар.**

# Мураўіные яйкі як покарм для куранят.

Каб кураняты выгадаваліся моцнымі ды здаровымі трэба іх карміць найлепшым покармам. Можа мала хто знае, што мураўіные яйкі якраз і з'яўляюцца гэтым найлепшым покармам.

Гэта самы любімы і ласы покарм для куранят, яны іх ядуць з вялікай задздрасьцю і могуць з'есьці шмат, не псуючы сабе жыватоў. Мураўіные яйкі — гэта, так званы, жывотны покарм, і куранята ад яго вельмі хутка папраўляюцца, растуць хутка, а хворые дык здаравеюць.

Некаторые з кураведаў кажуць, што выгадаваные на мураўіных яйках курачкі, будуць найлепей нясьціся.

Трэба толькі ведаць як здабыць гэтые мураўіные яйкі. Канец мая ды чэрвеня—найлепшая пара здабычы іх. У нас, на бацькўшчыне шмат лясоў, а ў іх мы заўсёды бачым вялікіе мураўіные кучы.

Дык вось рыдлёўкаю разрыем такую кучу, бярэм з сярэдзіны ўсё што пападае і кладзём ў торбу. Выносім на чыстае месцо, дзе няма травы і дзе шмат сонца. Там робім няглыбокіе ямачкі, якіе прыкрыем хваёвымі, ці сасновымі галінаучкамі. Сярод ямачак і высыпем ўсё сьмецьцё. Мурашкі па інстынкту ведаюць, што ад сонца яйкі хутка сапсуюцца і вельмі борзда пачнуць зносіць іх ў ямачкі, заслоненые галінкамі. Тады латва пазьбіраць гэтые яйкі.

**Т. Імшэнік.**

---

# Паліўка саду.

Ня можна дапушчаць, каб зямля ў садзе перасыхала, бо гэта шкадліва адзавецца на завязях (пачнуць абсыпацца).[1]

Калі стаіць гарачыня і няма дажджоў, трэба, канечне, на колькі ёсьць мажлівасьць, палівацъ дрэвы. На адно дрэво, гледзячы на ўзрост, 5—10 вёдраў вады.

**Ігнатовіч.**

---

# Аб карысьці розных дрэваў.

Дрэваў у нас шмат, але што за карысьць што панасадзяць бяз толку таполі, ліпы, бярозы і інш. Месца займае, а карысьці не дае!

Вось, напрыклад, ў Нямеччыне: ні адной крыхі зямлі без карысьці ня згіне, ніводнага дрэўца без карысьці і разуменьня не пасадзяць. Трэба і нам карыстаць са ўсяго, тады толькі наша гаспадарка пойдзе ўгару.

Садзеце прысады, садзеце каля хаты дрэвы, карысные гаспадарцы. Садзеце дзікіе грушы, яблыны, садзеце каштаны, дубы—будзеце мець пекные дрэвы і ўвосень харч для жывёлы.

Надта ахвотна ядуць дзічкі сьвіньні, а яшчэ ахватней каштаны, жалуды і сыцеюць ад іх ляпей, як ад жалудоў, бо у каштанох ёсьць надта карысные харчовые часткі.

**Ст-ская.**

# Заразные хваробы сьвіней.

Усім вядома як лёгка гінуць сьвіньні ад розных заразных хваробаў, вельмі падобных адна да другое, дзеля чаго па несьвядомасьці ўсе гэтые хваробы завуць „рожаю“, але ўзапраўды аказваецца, што у сьвіней ёсьць тры найбольш глаўные заразные хваробы, адменные адна ад другой і кожная з іх патрабуе асобных мэтодаў паратунку.

Гэтые тры хваробы гэткіе: 1) Павальная хвароба сьвіней (сэптыцэмія), 2) Чума, 3) Рожа (чырвонка).

Павальная хвароба. Глаўнымі ад'знакамі гэтай хваробы: сухі каroткі кашаль, дыхаюць цяжка, хрыпла, часамі з носа ідзе сьлізь, перастае есьці, зарываецца ў падсьцілку, на вушох, шыі, бакох з'яўляюцца чырвоные плямы, якіе ня гінуць, калі прыцісьнем іх пальцам. Спачатку хваробы бывае запор, а ў канцы з'яўляецца вольнасьць з кроўю. Хвароба бывае ў працягу ад 1—2 дзён, а у некаторых да 6 тыдняў. Найбольш гэтай хваробай хварэюць маладые свіньні.

Чума. Гэтай хваробай часьцей хварэюць маладые свіньні да 4-х месяцаў. Глаўнейшымі ад'знакамі хваробы: трацiць апэтыт, убіваецца ў вугал сьвінарніка, частые ваніты жоўтай слізьзю, ў роце чырванее, язык робіцца афарбоўкі брудна-шэрай, сьвіньня выгінаецца ўверх, на вушох і жываце з'яўляюцца чырвоные плямы, ходзячы хістаецца і дохнець праз 3—8 дзён.

Рожа—гэта хвароба часьцей бывае ўлетку, ў цесных, вільготных і брудных хлявох. Хварэюць часьцей у ўзросьце ад 3 да 12 месяцаў, радзей у 3-х гадовым ўзросьце, а яшчэ радзей—у старым.

Перадаецца рожа здаровым ад хворых і ад таго месца, дзе засталіся сьляды хворых; праз паветро зараза не пераносіцца.

Ад'знакі хваробы гэткіе: хворая сьвіньня ня есьць, ляжыць, бывае паралюш заду, векі на вачох успухаюць, бялок вока чырванее, скрыгоча зубамі і інш. Часьцей ўсяго на другі дзень хваробы на вушох, шыі, грудзях і ўнізе жывата з'яўляюцца сьветла-чырвоные, а потым цямнейшые плямы, а плямы на вушох пакрываюцца пузыркамі, лякса бывае часамі з кроўю. Слабасьць павялічваецца і на 5 дзень здыхае.

### Агульнае лячэньне.

Лячэньне лякарствамі гэтых хваробаў немаль што не даець ніякай карысьці.

Даюць у пачатку хваробы каламель 2—3 грамы на адзін раз.

Найляпей папераджаць хваробы у сьвіней шчапёнкамі (прыіўкамі); ад кожнае хваробы асобная. Шчапёнкамі распараджаецца і робіць вэтэрынар, як ён прызнае тую ці іншую хваробу, але і сам гаспадар павінен сьцерагчыся занесьці заразу да сябе, дзеля гэтага трэба з асьцярогай адносіцца купляючы: першые 2—3 тыдні трымаць купленых сьвіней асобна і калі будзе відаць, што яны саўсім здаровы, можна далучыць да сваіх.

Купляючы трэба сцерагчыся кашлю ўсялякага і інш. ад'знакаў хваробы. Сьвіньня—адна з самых далікатных жывёлаў. Гаспадар паві-

мен трымаць яё у чыстаце, сусе, часьцей мыць пасуду, у якой яна есьць, зьменіваць падсьцілку, а калі есьць магчымасьць—мыць. За тое што не даюць чыстаты і трымаюць сьвіней у недаглядзе, часта жварэюць і дохнуць і гіне агульная гаспадарка вёсак і усяго краю.

Амэрыка, Англія і інш. народы зразумелі значэньне сьвіней у агульнай гаспадарцы, адносяцца з вялікай увагаю да гэтае жывёлы, ад чаго маюць вялікую карысьць.

Пара і нам ужо ўзяцца належным чынам за гэтую справу, каб мець ня меншую карысьць, якую маюць людзі.

Доктар-Вэтэрынар **І. Серада.**

# Косьці.

За апошнюю вайну, край наш зьніштожан, з'явіліся цяжкіе варункі жыцьця і прамысловасьці, якіе ледзь толькі варухаюцца пасьля разбураньня.

Дзеля таго што стварылося гэткае становішчо мы павінны больш за усё зьвяртаць увагу на тые натуральные багацьці, якіе ёсьць ў нас на месцы і на якіе мы да гэтага часу не зьвярталі ўвагі.

Усё тое, што мы завём смецьцём, як напрыклад, ганучы, бітае шкло, косьці, коркі, акуркі, кавалкі жалеза, непатрэбная папера, кавалкі вяровак, скуры і шмат інш.—ўсё гэта каштоўна і пры арганізацыі, можа даць нам досіць вялікі прыбытак.

Зьвяртаем увагу на косьці, якіе валяюцца у нас усюды і якіе на нашых вачох зьбіраюцца з тым, каб прадаваць у цэнтральные склады.

Мы павінны самі зьбіраць косьці, каб быць гаспадаром свайго багацьця.

Маскоўшчына вядзе гандаль касьціма ўжо 100 гадоў. Да ўсясьветнай вайны ў Маскоўшчыне 43 фабрыкі перараблялі косьці, на Польшчы, Літве і Беларусі—18 фабрыкаў, у Фінляндыі — 11 фабрыкаў. Усяго перараблялося 4 мільёны пудоў касьцей.

З касьцей выробляюць: лой, клей, штучные гнаі, касьцяную муку, касьцяное марло і вугаль.

Клей касьцяны ужываецца на склейку дрэва, пры вырабе капялюшоў, у друкарні і т. д.

Касьцяная мука самы лепшы харч для дамовых птушак і жывёлы.

Касьцяны вугаль ужываецца пры вырабе цукру.

З усяго вышэй гаворанага відаць, якая карысьць ёсьць ад касьцей.

Асабліва пасьля вайны ўсюды на ўсёй Беларусі ёсьць шмат касьцей, кожная вёска, кожны засьценак павінны арганізавацца (пры дапамозе коопэратываў), каб мець цэнтральны склад, куды ўсе павінны зносіць косьці, каб скарыстаць іх.

Мы ахвотна з свайго боку дапаможам радай, куды і каму іх прадаць.

**Інжынэр Раманоускі.**

# Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі.

## Весткі Сельска-Гаспадарскай Коопэрацыі і Сельска-Гаспадарскай Кронікі.

### Ад Беларускага Цэнтральнага Саюзу Сельскай Гаспадаркі.

Парадак закладу с.-гаспадарскага таварыства такі: 4 экз. статуту трэба падпісаць ня менш 7 асобам, завоўніць заяву і ўпаважніць адну асобу вясьці справу аб зацьверджаньні статуту. Подпісы і праваздольнасьць гэтых асоб павінны быць пасьведчаны гмінаю, ці раёнłным начальнікам. Тады заяву з статутам і 150 мк. на рэгістрацыю перасылаеце павятоваму старасьце, які павінен даць Вам адказ на заяву ў працягу 3 тыдняў, у праціўным выпадку, не адтрымліваючы ніякага адказу ад улады, новае Т-ва, згодна істнуючых на ўсходных землях законаў, мае права пачынаць працу.

Адначасна з падачаю на зацьверджаньне статуту робіце сход для зацікаўленых гаспадароў, напішаце пратакол аб ўваходзе закладаемага Т-ва ў сябры нашага Саюзу, ўносіце паі і частку пая, а ласьне 25 мк. з кожнага сябра Т-ва адлічаеце ў Саюз, згодна нашаму статуту, а так сама уносіце 50 мк. уступнай платы з усяго Т-ва.

Выпіску з гэтага пратаколу (прыкладаецца блянак) з паямі і ўступнаю платаю (глаўным чынам павінна быць ўнесена ўступная плата 50 мк.) перасылаеце ў Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі, па адрэсе: Менск, Аляксандраўская вул., д. Кантаровіча ў падворку.

Пасьля гэтых фармальнасьцяў новае Т-во можа завязваць ўсякіе дзелавые адносіны з Саюзам: зьбіраць авансы на машыны, даваць заказы, прасіць інструктароў для арганізацыі якога-небудзь дзела, напрыклад, арцеляў па пераробцы і збыту малочных прадуктаў, прадуктаў саду, агароду і інш.

Статуты і блянкі заяваў можна выпісаць ад Саюзу за 10 марак комплект.

---

У апошніе часы закладаюцца Сел.-Гаспад. т-вы і ўжо заложаны „Малкаўскае Сел.-Гасп. Т-во“ у Бабруйскім павеце, Ляскавіцкай гміны, „Глускае Сел.-Гасп. Т-во“ Бабруйскага павету, Глускай гміны, „Заслаўскае Сел.-Гасп. Т-во“ у Заслаўі, Менскага павету; апрача гэтага прыступлена да арганізацыі Бабруйскага Т-ва сялянскіх гаспадар

Пры Саюзе ёсьць гандлевы аддзел, адчынена крама, у якой знаходзяцца розные сел-гасп. рэчы, якіе будуць прадавацца сябром, коопэратывам, і таварыствам у першай чарзе і за танейшые цэны, а аддзельным гаспадаром за нормальныя цэны. У сучасны момэнт у краме ёсьць: гвоздзі, лапаты, вілы, жалезо новае і старое, падковы, акуцьця для вазоў, жалезо па бароны, каменны вугаль для кузьняў і інш.

Адрэс крамы: Траецкая вул., № 36, ўход з Старажоўскай.

Праца паміж Урадам Беларускага Цэнтральнага Саюзу Сельскай Гаспадаркі разьдзелена у гэткім парадку: Аграном п. К. Тарэшчэнка — старшыня, тэхнічным аддзелам кіруе інжынэр п. А. Трэпка, агранамічным аддзелам кіруе п. А. Бонч-Асмалоўскі і аграном п. Сьцапура, аддзелам сел.-гасп. складаў п. В. Кернажыцкі і пракатным пунктам п. А. Шатэрнік.

Ад Саюзу ў Варшаве арганізовано прадстаўніцтва, на чале якога стаіць інжынэр п. Дубяйкоўскі.

*Рэдактар: А. ЎЛАСАЎ.*

*Выдавец: Беларускі Цэнтральны Саюз Сельскай Гаспадаркі.*

## Ляборатория воспы вэт. лекара І. СЕРАДЫ

**у Менску (Стаенная 7, рог 3-га Шпітальнага завул.)**

выробляе ў уласным воспавым цялятніку воспавы дэтрыт (Waccyna—Limfa)

і прадаець яго ў ампулах па 10, 25, 50 і 100 дозаў.

**З правінцыі радзіцца прысылаць за дэтрытам.**

## Тэхнічнае Бюро і склад тэхнічнага начэньня

# Ю. ЯКУБОУСКАГА.

*Менск, Сярпухоўская, 19.*

Будоўля і абсталюнкі млыноў, лесапілак і інш. фаб. Электротэхнічные установкі. Рэмонт машын. Паравые і газавые лёкомобілі, станкі. Абсталюнкі эксплёатацыі тарфянікаў на апал.

Уладжаньне вузкакалейных чыгунак.

**Бюро адчынено ад 9 да 4 гадзіны.**

# РУНЬ

31-га мая г. г. ў Менску выходзіць новая часопіс.

**Рунь** беларускае літэратуры і мастацтва.

**Рунь** у ліку сваіх супрацоўнікаў мае самые найпаважнейшые літэратурные і мастацкіе сілы.

**Рунь** заховлівае сваім зьместам беларускае пісьменство, поэзыю, гісторыю, памяткі мінуўшчыны, крытыку і г. д.

**Рунь** служыць вялікім ідэалам красы і свабоды.

**Рунь** выходзіць ня меней 4-х разоў у месяц.

**Рунь** каштуе з перасылкай толькі 5 марак за адзін нумар, на 1 м-ц—20 мар., на 3 мес.—60 мар.

**Рунь** выходзіць пад рэдакцыяй Янкі Луцэвіча, выдавец праф. Вацлаў Івановскі.

Адрэс: Рэдакцыя—Менск, Кашарская 10, кв. 5, (адчынена ад 10 да 11 г. зраньня).
Адміністрацыя: вул. Міцкевіча, Беларускі Дом (адчынена ад 9 да 3 г. дня).

